# ДРУГОЕ ПАСЛАННЕ СВЯТОГА ЯНА

## (1-13)

[1]Старэйшы — да Выбранай Пані і яе дзяцей, якіх я люблю ў праўдзе, і не
толькі я, але і ўсе, хто пазнаў праўду [2]дзеля праўды, якая трывае ў нас і будзе з
намі навекі. [3]Ласка, міласэрнасць ды спакой ад Бога і ад Езуса Хрыста, Сына
Айца, няхай будзе з намі ў праўдзе і любові.
[4]Я вельмі ўзрадаваўся, што знайшоў сярод тваіх дзяцей такіх, якія
паступаюць згодна з праўдаю паводле запаведзі, якую мы атрымалі ад Айца. [5]І
цяпер прашу цябе, Пані, не як новую запаведзь пішучы табе, але тую, якую
маем ад пачатку, каб мы любілі адзін аднаго. [6]Любоў заключаецца ў тым, каб
мы паступалі паводле Ягоных запаведзяў. А запаведзь гэтая тая, якую вы чулі
ад пачатку, каб вы паступалі паводле яе.
[7]Бо шмат ашуканцаў прыйшло ў свет, якія не прызнаюць, што Езус
Хрыстус прыйшоў у целе. Такі ёсць ашуканцам і антыхрыстам. [8]Зважайце на
сябе, каб вы не страцілі таго, над чым мы працавалі, але каб атрымалі поўную
ўзнагароду. [9]Кожны, хто выходзіць наперад і не трывае ў вучэнні Хрыста, не
мае Бога. Хто ж трывае ў вучэнні, той мае і Айца, і Сына.
[10]Калі хто прыходзіць да вас і не прыносіць гэтага вучэння, не прымайце
яго ў дом і не вітайце. [11]Хто прывітае яго, той удзельнічае ў яго дрэнных
справах.
[12]Пра многае маю напісаць вам, але не хачу на паперы атрамантам, бо
спадзяюся быць у вас і паразмаўляць з вамі, каб радасць нашая была поўнай.
[13]Вітаюць цябе дзеці тваёй Выбранай Сястры.

---